РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА: БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, ШАРКОЎШЧЫНА

«ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ» на 8-мі старонках

# ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ

Free Hlybokaye

*Дык жа ўцям! На Беларусі -- беларусы жывуць!*

*Янка Купала.*

*Жыве Беларусь!*

Wolne Glebokie

Выдаецца са снежня 1994 года *№13-14 (45-46), ліпень, 2000 года *Кошт па дамове

АНОНС

У наступным нумары: «Вольнае Глыбокае» на Фэсце сярэднявечнай культуры **«Навагрудак `2000»**



## Беларусь- Расія: міжнародная тэлефонная нумарацыя.

19 чэрвеня Беларусь ва ўзаемаадносінах з Расіяй пераходзіць на міжнародную тэлефонную нумарацыю. Зараз, каб патэлефанаваць расійскаму абаненту, жыхар Беларусі павінен пасля традыцыйнай васьмёркі набраць лічбы 10 і 7 і толькі потым -- код патрэбнага населенага пункта і нумар тэлефона абанента. Што датычыць зваротнай сувязі, то расіяне набіраюць **міжнародны код Беларусі (8-10-375)** ужо колькі месяцаў.

*Д. Власаў, БелаПАН*

## Плаціце, грамадзяне - таварышы

У чэрвені ў Беларусі зноў павысіліся тарыфы практычна на ўсе віды камунальных паслуг. На трэць, у параўнанні з маем, узраслі тарыфы на газ, вываз і абясшкоджванне смецця, на 6% -- тарыфы на халодную ваду і каналізацыю, на карыстанне ліфтам, радыёкропкай, на 3% на гарачую ваду. Акрамя таго, на 30 % павялічылася стаўка кватплаты (з 3,74 да 4,86 рубля за квадратны метр).

## Што будзем піць?

Лікёра-гарэлачныя заводы Беларусі скарачаюць вытворчасць гарэлкі па прычыне высокага акцызу, які складае сёння 6 еўра за 1 літр бязводнага (стопрацэнтнага) этылавага спірту і робіць выпуск гарэлкі беспрыбытковым.

*Д. Власаў, БелаПАН*

## IV Кангрэс Дэмакратычных Сілаў

**4-ты Кангрэс дэмакратычных сіл Беларусі прайшоў ў Мінску 2 ліпеня 2000 года ў Доме культуры камбіната «Сукно». На ім прысутнічала 840 дэлегатаў ад беларускіх дэмакратычных партый, рухаў і прафсаюзаў. Глыбоччыну прадстаўляў адзіны дэлегат, аўтар гэтых радкоў.**

**Кангрэс дэмакратычных сіл Беларусі прыняў некалькі рэзалюцый: «Аб адносінах дэмакратычных сіл Беларусі да магчымых парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў», «Аб падтрымцы Усебеларускага З`езду за незалежнасць», «Аб стварэнні Каардынацыйных рад дэмакратычных сіл». Менавіта гэтыя дакументы стануць праграмай дзеяння беларускай апазіцыі на бліжэйшы час.**

Працу Кангрэса адкрыў яго старэйшы дэлегат, ветэран вайны Артур Вольскі. Дэлегаты праспявалі нацыянальны беларускі гімн «Пагоня» на словы Максіма Багдановіча. Ушанавалі хвілінай маўчання памяць Генадзя Карпенкі, актыўнага арганізатара трох папярэдніх Кангрэсаў, які нас заўчасна пакінуў.

На Кангрэсе прысутнічалі прадстаўнікі амбасад Францыі, Польшчы, Літвы, Фінляндыі, ЗША. Прывітанні Кангрэсу паступілі з многіх краін свету, нават ад кубінскіх дэмакратаў з ЗША. Прывітанне ад дэмакратаў Польшчы зачытаў з трыбуны дэпутат Сейма Рэчы Паспалітай Польскай Ян Ракіта. Ён адзначыў, што нягледзячы на ўсе падпісаныя дамовы паміж Беларуссю і Расіяй, Польшча лічыць Беларусь незалежнай краінай, з якой знаходзіцца ў добрасуседскіх адносінах, гэтак, як з суседняй Літвой і Украінай.

Сваё стаўленне да восеньскіх парламенцкіх выбараў выказалі выступоўцы А. Лябедзька (АГП), С. Шушкевіч (БСДГ), М. Статкевіч (БСДП НГ) і В. Вячорка (БНФ).

Выступоўцы аднадушна выказаліся супраць удзелу партый у восеньскіх парламенцкіх выбарах. Асноўная прычына такога рашэння ў тым, што *«грамадзяне Беларусі з восені 1996 года пазбаўлены магчымасці ўдзельнічаць у кіраванні сваёй краінай праз дэмакратычна абраны і паўнамоцны парламент; працягваюцца палітычныя рэпрэсіі супраць грамадзян нашай краіны; бясследна знікаюць вядомыя апазіцыйныя палітыкі; у грамадстве пануе страх, расце палітычная эміграцыя;*

**адсутнічае рэальны доступ апазіцыйных партый да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі; прынятыя выбарчы кодэкс не адпавядае міжнародным стандартам і не дазваляе забяспечыць прадстаўніцтва ў парламенце розных грамадскіх інтарэсаў, стварае ўмовы для фальсіфікацыі выбараў і не забяспечвае даверу да вынікаў галасавання. У гэтай сітуацыі любыя выбары пераўтвараюцца ў фарс, удзел у якім для дэмакратычных сіл немагчымы».*

Кангрэс дэмакратычных сіл запатрабаваў правядзення рэальных перамоў паміж уладай і апазіцыйнымі партыямі і выканання умоў для правядзення свабодных і справядлівых выбараў, што былі сфармуляваны ў Санкт-Пецярбургскай дэкларацыі Парламенцкай Асамблеі АБСЕ і Выніковым дакуменце Стамбульскага Саміту кіраўнікоў дзяржаў АБСЕ, а таксама ў Дакуменце Тэхнічнай канферэнцыі па сітуацыі ў Беларусі ад 7 красавіка 2000 г., а менавіта:

* *забяспечыць наданне парламенту рэальных паўнамоцтваў як адзінаму заканадаўчаму органу;*

* *прывесці выбарчае заканадаўства ў адпаведнасць з еўрапейскімі стандартамі;*

* *забяспечыць рэальны доступ апазіцыйных партый да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі;*

* *спыніць палітычныя рэпрэсіі, забяспечыць свабоду мірных сходаў і свабоду слова.*

Кангрэс заявіў, што дэмакратычныя сілы прымуць рашэнне ўдзельнічаць у парламенцкіх выбарах толькі пасля выканання ўсіх вышэйзгаданых умоў. У адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, гэтыя ўмовы павінны быць выканаными за чатыры месяцы да выбараў.

Кангрэс заклікаў міжнародныя арганізацыі, парламенты і ўрады дэмакратычных краін заявіць, што ў выпадку невыканання гэтых умоў выбары ў Беларусі не могуць быць прызнаныя легітымнымі і дэмакратычнымі.

Акрамя рэзалюцыі Кангрэса дэмакратычных сіл Беларусі «Пра адносіны да выбараў», была прынята рэзалюцыя «Аб кансалідацыі дэмакратычных сіл», пастанова «Аб каардынацыйнай Радзе дэмакратычных сіл (КРДС)» і пастанова Кангрэса «Аб Усебеларускім З`ездзе за незалежнасць».

Самымі прадстаўнічымі дэлегацыямі на 4-ым Кангрэсе дэмакратычных сіл былі дэлегацыі Мінска і Мінскай вобласці, аднак, і дэлегацыі іншых абласцей складалі не менш 70 чалавек.

З мэтай эфектыўнай рэалізацыі сумесных палітычных рашэнняў Кангрэс заклікаў мясцовыя структуры арганізацый-удзельнікаў Кангрэса да стварэння рэгіянальных Каардынацыйных Радаў дэмакратычных сіл у тых абласцях, гарадах і раёнах, дзе яны яшчэ не створаны.

У перапынках на Кангрэсе адбываліся цікавыя сустрэчы і знаёмствы. Звярнуў на сябе ўвагу адзін сталы мужчына, які набываў кнігі на беларускай мове. Многія падыходзілі і жартавалі з ім. На бэйджы было напісана: «Аляксандр Граф Прушынскі. Кандыдат у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь. Старшыня Хрысціянска-Дэмакратычнай Партыі. Беларус».

***Уладзімір Скрабатун,*** *дэлегат IV Кангрэса дэмакратычных сіл.*

**P.S.** 29 ліпеня прадстаўнічая дэлегацыя ад Глыбоччыны прыме ўдзел ва Ўсебеларускім З`ездзе за незалежнасць. «Вольнае Глыбокае» будзе трымаць у курсе справы сваіх чытачоў.

## Першыя, але ззаду




**Сярэднемесячны заробак (у доларах ЗША)**

| | |
|---|---|
| **Германія** | **1613** |
| **Фінляндыя** | **1435** |
| **Андора** | **632** |
| **Польшча** | **385** |
| **Чэхія** | **368** |
| **Венгрыя** | **333** |
| **Эстонія** | **312** |
| **Літва** | **280** |
| **Латвія** | **245** |
| **Румынія** | **130** |
| **Югаславія** | **127** |
| **Расія** | **60** |
| **Украіна** | **45** |
| **Албанія** | **42** |
| **Беларусь** | **35** |






Вёска ў полі зроку

# «Рабом нарадзіўся, рабом і памру...»

Амаль усе казкі пачынаюцца прыкладна аднолькава: «У некатарым царстве, ў некаторай дзяржаве жылі-былі дзед ды баба». Як ва ўсіх казках, дзед ды баба жывуць бедна, есці нечага, апрануць нечага, а канец казкі звычайна шчаслівы: і хлеб з'яўляецца, і капуста, і бліны. Прычым, з'яўляецца як падарунак. Дзядуля і бабуля не прыкладалі для гэтага асаблівых намаганняў. У адрозненні ад казак, у нашай сучаснасці дзед і баба, якія жылі-былі раней у Саюзе, нейкі час у Беларусі, ад рання да змяркання з сямі год рабамі працавалі не на дзядзю Сэма-капіталіста, а дзеля светлай будучыні, гэтую светлую будучыню добра калі ўбачаць на тым свеце. У канцы савецкай «казкі» ім не «свеціць» ніякі падарунак у выглядзе хлеба-солі, на які не трэба рваць кішкі ў 70 год. «Рабом нарадзіўся, рабом і памру»,-- сказаў мне неяк 70- гадовы дзед, якому калгас «аддзячыў» за 40 год працы. Сюжэт гэтай гісторыі традыцыйны для існуючай у Беларусі калгасна-саўгаснай сістэмы, таму напісаць пра яго трэба.

Жылі-былі ў адным з калгасаў Глыбоччыны дзед і баба. Баба з сямі год палола дзялкі, пратраўлівала зерне вясной, не маючы распіратара, харкала крою, ішла на зерняток, рвала і падымала лён, вазіла гной... 45 год без адпачынку працавала. Думала пажыве на пенсіі...

Тое ж думаў і дзед, які чатыры дзесяткі год цягаў сянаж, мяхі з камбікормам, гадаваў калгасную скаціну,араў зямлю і даглядаў соткі дома. Думаў, што двухжыльны...

Прыйшоў час і абое пайшлі на пенсію. З «рога» многа не пасыпалася, акрамя пенсіі 12 долараў у месяц. За гэтыя грошы, як не круці, не пражывеш. Ізноў упрагліся: соткі, скаціна. А тут яшчэ калгас не адстае: «Вазьмі з гектар буракоў, да дзём зерня. Выйдзі на лён-- дадзём камбайн сваё змалаціць». Дзе дзенешся, мусіш адрабляць.

Адзінае, чаму радаваліся старыя,-- калгас даў ім каня. На першы погляд, бясплатна. Яны не плацілі за пашу, спрабавалі на ім араць. Скажаце, які добры калгас: уважыў пенсіянераў. Усё было разлічана на тое, каб рукамі старых выгадаваць патрэбную калгасу жывёліну.

Маладога жарабка спачатку «выкналі», заплаціўшы доктару грашыма і вадкай «валютай». Затым яго пачалі прывучаць да вупражы. Тут ужо былі не жартачкі, бо конь брыкаўся, валяў старых, абіваў, насіўся па палях з павозкай, разбіў яе. Колькі грошай, часу, здароўя лягло! Замест таго, каб адпачываць, дзед ды баба з раніцы, як дзеці, бегалі то з канём, то за ім. Толькі праз два гады ён крыху скарыўся, а тут у калгасе і кажуць: «Давай яго нам, бо на ферме конь патрэбен».І засталіся дзед і баба ні з чым. Бядуюць, праклінаюць лёс, а слова поперак сказаць баяцца, каб яшчэ горш не было. А горш ужо наўрад ці бывае дзе. Магчыма, пенсіянерам прапануюць узяць яшчэ на тры гады новага жарабка. А як жа інакш? Дзяржава пра сваіх рабоў «клапоціцца»: пакуль раб жывы -- працуй. І няўцям беларусу-селяніну, які размяняў сёмы дзесятак, што падобная з'ява не норма жыцця, што гэта звычайны здзек над чалавекам. І што Цмок, які ў казцы то трохгаловы, то дванаццацігаловы, у нас мае незлічоную колькасць галоў і таму п'е ён кроў з людзей і ніяк не можа напіцца. Беларускі селянін, які за ўсё жыццё можа не быў далей Глыбокага, не ведае, што селянін-немец у 70 год толькі піва папівае ды па Еўропе раз'язджае, а не жарабкоў аб'язджае. Не верыць нашы сяльчанкі, што 70- гадовая сялянка-шведка баіцца ў сваім узросце падарваецца фотаапаратам, купляе маленькі ды зручны, а каб ёй вурнуў на плечы 40-кілаграмовы мех, які нашы жанчыны носяць, яна б ляжала ў рэанімацыі. У нашых жа жанчын ад цяжкай працы мача ліецца, а яны думаюць -- гэта норма. У нашых мужчын рукі вывіхнутыя і яны працуюць -- думаюць, што так павінна быць.

З сямі год да 15 я сам штодзень смакаваў гэты вясковы «рай», і таму сёння сэрца крывёй абліваецца за людцаў вясковых, якіх так шкада!

Яны павінны жыць у палацах і есці з залатога посуду. Ім помнікі павінны ставіць ужо зараз, а не папракаць з экрана, што мала працуюць. Іх імёны і прозвішчы трэба выбіваць золатам на Дошках гонару і славіць не Саюзы не інтэгратараў-пустаслоўаў, а працавітага, з чорнымі рукамі і мазолямі селяніна, рабочага, жабрака-інтэлігента.

Канец жыцця ў большасці беларусаў цяжкі: галодны, са слязамі і крыўдай. І так шкада, што за ўсё сваё жыццё яны нават дзень не пажылі ў светлай чароўнай казцы.

*Т. Сабалеўскі*



Фота А. Ліпіна

# «Прывітанне»

Літаратурная старонка

## Піша пра жыццё адмыслова з Заазерцаў Сафія Табола

**Сафія Міхайлаўна жыве ў вёсцы Заазерцы Шаркоўшчынскага раёна. Скончыла Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум. Доўгі час працавала па спецыяльнасці. Выхавала дачку і сына. Піша замалёўкі, апавяданні, гумар. Сябра раённага Таварыства беларускай мовы. Прадстаўнік БХК у сваім раёне. Змагаецца за годнае жыццё для сябе і ўсіх беларусаў. У яе баліць душа за забітага лебедзя, за возера, якое гіне, за пакрыўджаных дзяржавай хворых людзей, за беларускую мову... Сённяшняя літаратурная старонка -- яе творчы дэбют.**

Чорнае і белае

### Выпадковая сустрэча

Я ехала ў электрычцы Мінск -- Баранавічы. На адным з прыпынкаў у вагон зайшоў хлопчык гадоў 10-12-ці на мыліцах. Адна нага была ў гіпсе. Ён зняў шапку і стаў абыходзіць пасажыраў. Падыходзіў да людзей, хрысціўся моўчкі, і яму ўсе падавалі: хто больш, хто менш. Абышоўшы вагон, хлопчык на прыпынку выйшаў і сеў у другі вагон. Думаю, ён яшчэ доўга стаяў у вачах пасажыраў, з сумным позіркам, нязграбна апрануты ў паношаную, бачна было, з чужога пляча, але чыстую вопратку.

Прыехаўшы ў Баранавічы, я прысела на лаўку ў скверыку каля вакзала, чакаючы калі за мной прыедуць родныя: сумкі былі даволі цяжкія. Я ўжо і не думала пра таго хлопчыка ды ён сеў каля мяне і, не звяртаючы на мяне ўвагі, дастаў з кішэні грошы і пачаў іх лічыць, папраўляючы пакамячаныя купюры і раскладаючы іх па вартасці. Я назірала за ім. Пералічыўшы грошы, хлопчык паклаў іх у кішэню і ... стаў раскручваць загіпсаваную нагу. Яна была здаровая!

Я ўзяла хлопчыка за руку. Ён ірвануўся, хацеў уцячы, але я рукі не адпусціла.

Спыталася : «Навошта ты так робіш, хто цябе навучыў?» Хлапчук заплакаў: «Цётачка, не здавайце мяне ў міліцыю, я вам усё раскажу. Мяне мамка прымушае, яна і навучыла. Я езджу на электрычках, збіраю грошы. Калі хапае на бутэльку, яна вясёлая, а калі не, то б'е».

«А сёння хопіць на бутэльку?»,-- спытала я. «Хопіць, я яшчэ і булку хлеба куплю, і на малако застанецца». Мы пагаварылі з ім крыху, потым ён нясмела запытаў: «Я пайду, можна? Мяне яшчэ дома сястрычка чакае». Я яго ўжо і не трымала. Хлопчык пайшоў, азірнуўся, памахаў мне рукой. А я яшчэ доўга глядзела ўслед і думала: «Што чакае яго ў будучым? Якім ён вырасце? Зламае яго лёс ці не?

Два гады прайшло, а я ўсё памятаю тую выпадковую сустрэчу.

***

Роздум з нагоды

### Не хачу жыць у страху

Іншы раз не разумею сама сябе: быццам прачнулася ад доўгага сну. Узбунтавалася «благая» кроў. Кроў дзядулі кулака па матулінай лініі. Я памятаю, як у школе нам, дзецям расказвалі пра кулакоў-міраедаў і крывасмокаў, якіх трэба было знішчаць, як класавых ворагаў. А на летніх канікулах я расказвала дзядулю пра «мужны» ўчынак Паўліка Марозава, імя якога насіла наша піянерская дружына. Слухаў дзядуля моўчкі, а потым сказаў: «Унучачка, я ж таксама кулак».

Гэта быў сапраўдны удар. Мой любы, працавіты дзядуля, такі добры і мудры, кулак-міраед?! Штосьці тут не так! Менавіта тады я першы раз у жыцці задумалася, дзе я жыву і ці ўсё тое праўда, што пішуць? А потым я даведалася, што і па татавай лініі ў мяне «благая» кроў-- кроў «ворагаў народа». Я ніколі не бачыла другога дзядулю, бо памёр ён у сталінскім лагеры пад Уфой. У гэты час яго сын, мой тата, пухнучы ад голаду, са зброяй у руках абараняючы асаджаны Ленінград, падаў заяву ў партыю. І ў гэты ж час яго брат, крывёй заплаціў за сваю «віну» перад народам -- загінуў у баях пад Масквой у штрафным батальёне. А ў 39-ым старэйшы брат таты атрымаў «10 год без права допісу» -- яго расстралялі.

-- Татачка, як бы я хацела спытаць у цябе зараз -- што гэта: фанатызм або сляпая вера? Але ты ўжо не адкажаш, вайна адабрала цябе ў мяне ўжо ў мірны час.

Ці не злілася і не закіпела ў мяне кроў усіх маіх родных, пакрыўджаных, забітых, расстраляных: дзядулі-кулака Грыгор'ева В. П. і 11-ці чалавек з прозвішчам Сякацкія, якое было вядома на Беларусі з 16 ага стагоддзя і належыла прадстаўнікам магутнага шмаглікага роду, звесткі аб якім я знайшла ў Віленскім архіве? Я жыву на зямлі сваіх продкаў і не хачу жыць у страху перад днём заўтрашнім.

### Сучасныя вясковыя анекдоты.

Механізатар, умелец з залатымі рукамі, з двух спісаных трактароў сабраў адзін. Цэлы месяц працаваў руплівы чалавек на холадзе, што даточваў, што перабіраў-даводзіў, а што і нанава рабіў, але з прыходам вясны выехаў у поле сеяць хлеб. А калі атрымаў грошы за рамонт, прыйшоў у магазін. Паглядзеў на цэны, уздыхнуў і кажа прадаўшчыцы: «Дай бутэльку». А потым, крыху падумаўшы, дадаў: «Ат, давай дзве, на ўвесь заробак».

***

У адзін калгас прыехалі правяраючыя і вырашылі аб'ехаць засеяныя палі. Малады аграном суправаджаў іх. У тым калгасе было адно поле, на якім нічога не ўзышло. Думалі пераараць, але да прыезду правяраючых не паспелі. А на тым полі сурэпка цвіла ўжо суцэльным дываном. Сурэпка прыгожая расліна, асабліва калі цвіце. Маляўнічы жоўты дыван заўважылі правяраючыя і скіраваліся туды. «Што там расце?»-- пытаюцца ў агранома,-- а той, нават вокам не міргнуўшы, адказвае: «Чачавіца». Правяраючыя спыніліся на полі, разглядваюцца, хваляць. Аграном паддаквае. Наглядзеўшыся, паехалі далей. «Ну,-- думае аграном,-- пранесла». Праз некаторы час у газеце з'явіўся артыкул аб перадавым вопыце вырошчвання чачавіцы ў тым калгасе. Аграном доўга яшчэ тую «чачавіцу» расхлёбваў, нават вымову атрымаў.

Роздум

### Не цурайцеся мовы сваёй

Ёсць возера Байкал. Вялікае, паўнаводнае, магутнае. Каля трохсот рэк нясуць у яго свае воды, і ведае гэта возера ўвесь свет. І ёсць маленькае возера Карцэе на Беларусі. Сілкуюць яго толькі падземныя крыніцы. Зараслі яны балотнай тванню, зацягнуліся багнай. Ні гэтага возера, ні нават назвы яго не ведаюць не толькі ў свеце, але і ў сваім раёне.

Ёсць дзве мовы-- руская і беларуская. Адну ведаюць на ўсёй зямлі, на ёй размаўляе 1/6 частка свету. І ёсць беларуская мова, якую, за рэдкім выключэннем, нават самі беларусы не ведаюць.

Але я веру: як жыве магутнае возера Байкал, так будзе жыць і маленькае Карцэе. І абавязкова прабіюцца некалі праз балота і твань крыніцы, ударыць празрыстымі струменямі да сонца, да свету. Я веру: мова наша будзе жыць, і беларусы будуць ведаць яе і шанаваць і, гаворачы на ёй, атрымаюць такую ж асалоду, як стомлены вандроўнік набіраецца сіл, прыпадаючы да крынічнага струменю празрыстай, гаючай вады.


Фота Ул. Скрабатуна

У ноч на Івана Купалу

Зваротная сувязь

# Ці можна выпісаць «Вольнае Глыбокае»?

Менавіта гэтае пытанне задаюць многія нашы чытачы і пры сустрэчы, і ў пісьмах, і ў тэлефонных размовах. «Паляваць» за кожным нумарам газеты не кожнаму з рукі, мы разумеем гэта, але пайсці ў падпіску па тэхнічных прычынах пакуль не можам. Сённяшні наш нумар, спадзяёмся, парадуе ўсіх прыхільнікаў газеты, бо выходзіць ён на васьмі палосах, а гэта значыць,што інфармацыі ў ім будзе ўдвая больш ранейшага, інфармацыі самай разнастайнай: бытавой, краязнаўчай, літаратурна-гістарычнай. Зрабіць такі нумар мы змаглі, дзякуючы шматлікім чытацкім водгукам, прапановам, допісам. Новых знаёмых, сяброў мы знайшлі пасля публікацыі матэрыялаў пра дзейнасць Саюза Беларускіх Патрыётаў. Нам тэлефанавалі з Глыбокага, Шаркоўшчыны, Міёр, пісалі з Бабруйска.Наша газета трапіла героям публікацыі ў Полацку, Паставах , Карагандзе. Вось што напісала нам былая настаўніца СШ №2 г. Глыбокае,зараз пенсіянерка, якая жыве ў Бабруйску, Тамара Мікалаеўна Лагун: «Вельмі ўдзячна Вам (рэдакцыі -- *кар.*) за газеты... Мы ўсе, хто яшчэ жывы, лічам сябе адной сям`ёй. Усе мы пацярпелі за адну справу. Праўда, я не была членам СПБ. Мяне асудзілі і саслалі на катаргу за тое, што я ведала аб існаванні гэтай арганізацыі і не данесла органам КДБ. Пагэтаму ў мяне і самы «маленькі» тэрмін -- 3 гады. Пабыўшы разам з усімі на судзе, а судзіў нас ваенны трыбунал, паслухаўшы як мужна і смела ўсе адстойвалі свае погляды, з таго часу я лічу сябе членам СПБ. Я трымаю сувязь з Таболам Алегам. Разам з ім я вучылася ў сямігодцы ў Шкунціках; з Юршэвічам Алесем, які на год раней вучыўся ў СШ №1; з Бялевічамі, Фурсамі, трымаю сувязь і з іншымі сябрамі...». Тамара Мікалаеўна дасылае найлепшыя пажаданні свайму былому вучню, Уладзіміру Скрабатуну, які з`яўляецца заснавальнікам газеты і дзячыць усяму калектыву «Вольнага Глыбокага» поспехаў у нялёгкай і такой патрэбнай справе -- адраджэнні нацыянальнай свядомасці людзей, імкненні да праўды і шчаслівай будучыні.

Соф'я Міхайлаўна Табола з Шаркоўшчынскага раёна стала нашым пастаянным пазаштатным аўтарам. Прэзентацыя рубрыкі «Як улада размаўляе з народам», якую яна прапанавала і даслала матэрыял, адбылася ў 12-ым нумары за чэрвень гэтага года. Акрамя цікавых навін жанчына дасылае нам легенды, апавяданні, героямі якіх з'яўляюцца шаркоўцы-местачкоўцы; анекдоты з народа і пра народ, у аснове якіх наша горкая паўсядзённасць. Соф'я Міхайлаўна, як можа, вырашае экалагічныя праблемы, дабіваецца якаснага лячэння для ўсіх хворых. Гэта шчырая беларуска вядома ўсёй ваколіцы,да яе ідуць людзі са сваімі «болькамі» і яна, не маючы асабістага здароўя, дапамагае. Спадзяёмся на наша далейшае сяброўства з Соф`яй Міхайлаўнай, бо мы, як кажуць, створаны адзін для аднаго -- газета можа дапамагчы ў вырашэнні пэўных праблем.

За «добрую справу» дзячуў ужо колькі разоў У. Вялікі, чытач з Рэчыцы. «У нас усё, што выдаецца, выдаецца на рускай мове. У нас няма такіх грамадскіх арганізацый, як у вас. Вы -- малайцы!»

Дзякуем усім, хто не лянуецца падыходзіць у кіёскі «Саюздруку» і набываць нашу газету. Дзякуем усім, хто знаходзіць вольную хвіліну і піша нам, тэлефануе. Шчыры «дзякуй» усім за добрыя словы без зайдрасці, злосці. «Вольнае Глыбокае» і далей будзе пісаць толькі пра тое, як, чым жыве наш працоўны народ, якія праблемы вырашае, з якімі цяжкасцямі сутыкаецца. Мы не будзем перафарбоўваць наша жыццё ў патрэбны ўладзе вясёлкавы колер і не будзем сцвярджаць, што яно недарэчнае, няшчаснае; яно -- наш найкаштоўнейшы дар, верце ў гэта і жывіце з Богам у душы, не шукаючы ідалаў для пакланення.

Нагадваем, што наша газета змяшчае бясплатныя віншаванні родным і блізкім. Змяшчаючы ў нашай газеце сваю аб'яву ці матэрыял, ведайце, іх прачытае ўся Беларусь ад Глыбокага да Брэста. Здароў'я Вам, паважаныя чытачы. І да сустрэчы.

*Супрацоўнікі «Вольнага Глыбокага*

Праваабарончы бюлетэнь Глыбоцкага прадстаўніцтва БХК № 1(1), красавік -- май 2000 года

СЛОВА народу

Права — гэта не тое, што нам нехта дае, а тое, што ніхто не можа ў нас адняць.
*Рамзей Кларк, ЗША.*

# Прававы лікбез

Кожны з нас ад нараджэння да скону мае пэўныя правы і свабоды. Яны -- наш шчыт, які прыкрывае нас, нашу чалавечую годнасць з боку дзяржавы. Правы чалавека не могуць гарантаваць нам павагі і дапамогі дзяржавы, яны не даюць нам шчасця, справядлівасці ці дабрабыту -- яны толькі абараняюць нас ад прыніжэння нашай годнасці з боку самага большага парушальніка -- дзяржаўнай улады, што пры дэмакратыі адзначае волю большасці.

Чалавечая годнасць закладзена ў самой сутнасці чалавецтва, яна характэрна і малышу, які не паспеў яшчэ нічога зрабіць, і вопытнаму злачынцу. Паміж годнасцю чалавечай і асабістай ёсць розніца. З чалавечай годнасцю мы нараджаемся, а асабістую годнасць мы зарабляем самі, яна расце, калі мы вядзём сябе прыкладна і зніжаецца, калі мы робім абы што.

Для хрысціян чалавечая годнасць вызначаецца тым, што чалавек створаны па вобразу і падабенству Бога, носіць у сабе часцінку годнасці Стваральніка, якую трэба аберагаць.

Усе людзі на зямлі роўныя перад Богам, роўныя перад законам зямным. Праўда, у марксісцкім разуменні чалавечае грамадства выступае ў «новай якасці»,якому быццам бы характэрны асобыя інтарэсы, незалежныя ад волі і інтарэсаў асобных людзей. Такое грамадства і пачалі будаваць ленінцы пасля рэвалюцыі 1917 года, зрабіўшы сваю партыю прывілеяванай. І ўсё ж людзі ствараюць дзяржаву і прызначаюць уладу для таго, каб ім стала лепей і зручней жыць. Улада для народа, а не народ для ўлады, як зараз на Беларусі. Каб дзяржава магла дзейнічаць, грамадзяне добраахвотна згаджаюцца абмежаваць некаторыя свае правы і перадаюць іх дзяржаве. Напрыклад, мы згаджаемся абмяжоўваць маёмасныя правы і плацім падаткі. Хлопцы абмяжоўваюць сваю свабоду і ідуць у армію. І калі гэтыя абмежаванні з дапамогай розных пастаноў і дэкрэтаў даходзяць да абсурду і шкодзяць грамадзянам, тыя маюць поўнае права патрабаваць замены пэўных органаў улады. Не трэба забываць п р о ***уладзе дазволена толькі тое, што дапускаецца законам, а чалавеку ўсё, што законам не забаронена.***

У аснове ж Канцэпцыі правоў чалавека тры асноўныя палажэнні:

**1.** Кожная ўлада абмежавана.

**2.** Кожны чалавек валодае сваім аўтаномным светам, умешвацца ў які не можа ніякая ўлада.

**3.** Кожны чалавек, абараняючы свае правы, можа прад`яўляць прэтэнзіі да дзяржавы.

Не трэба схіляцца перад чалавекам на пасадзе -- ён такі ж, як усе мы, гэтак жа есць, п`е, хварэе, памірае. Сённяшні ўладар, які трымае людзей у пакорнасці сілай загадаў і высокіх званняў, заўтра скарыцца перад магутнасцю і дзяржаўнасцю Стваральніка.

Не трэба жыць з аглядкай, баючыся прагневаць сваімі паводзінамі ці думкамі ўладу. Улада для таго і абрана, каб рабіць усё магчымае і задавольваць патрэбы народа. Для большасці вяскоўцаў, для якіх старшыня «самадзержац», бо і кармы, і тэхніку выдзяляе ён; для большасці рабочых, для якіх дырэктар завода «вярхоўная ўлада», якая можа звольніць, даць вымову мае довады далёкія і незразумелыя, бо страх, які 70 год усяляла ў людскую свядомасць партыя і яе ідалы, сёння асноўны рэгулятар «грамадскай думкі». Страх застацца беспрацоўным, быць затрыманым за іншадумства, страх застацца без кавалка хлеба дапамагае ўладам шантажыраваць і скарыць добрую палову нацыі і пераконваць яе ў тым, што народ павінен маліцца на ўладу і дзячыць ёй за ўсё. Пройдуць дзесяткі год пакуль новае пакаленне беларусаў зразумее сваю індывідуальную годнасць, дойдзе да нацыянальнай свядомасці і прымусіць, нарэшце, уладу паважаць сябе.

*Г. СУТУЛА*

Роздум з нагоды

# Для каго пішацца Канстытуцыя?

Пад час вучобы ў сярэдняй школе, а было гэта ў «застойныя часы», мы нават не ўяўлялі, што гэта за звер такі Канстытуцыя. На ўроках гісторыі і грамадствазнаўства настаўнікі мімаходзь успаміналі гэты дакумент, але ніхто не тлумачыў для чаго ён існуе на самой справе, у чым яго сутнасць і якая ад яго карысць звычайным працоўным. Прыгоннага настаўніка зразумець можна было і тады, і цяпер. Але як зразумець сябе? Што рабіць, калі розныя незразумелыя пытанні тоўпяцца ў свядомасці, чакаючы з «параднага ўваходу» гатовага адказу, які б задаволіў. Мне прыйшлося самой шукаць гэты адказ.

Сёння я разумею,што і ў «застойны» перыяд, і зараз Канстытуцыя -- гэта даніна модзе, якой прытрымліваецца быццам бы цывілізаваная наша дзяржава. Ва ўсіх ёсць, няхай і ў нас будзе. Розніца толькі ў тым, што ў большасці краін Захаду Канстытуцыя працуе, а ў нас ляжыць за шклом у чыноўніцкіх кабінетах. У нас Канстытуцыя не гарант абароненасці асобы, не магчымасць ведаць, карыстацца і абараняць нашы правы, а толькі сродак для напаміну народу пра яго абавязкі, колькасць якіх расце прапарцыянальна росту колькасці дэкрэтаў, загадаў, пасланняў...

У нашай краіне патрэбна, каб афіцыйна былі прыняты дзве Канстытуцыі. Адна для вышэйшых чыноўнікаў, наменклатуры, каб пажыццёва замацаваць іх правы і даць магчымасць імі карыстацца, а другая для чэрні, дзе замацаваны пажыццёвае для нас і бестэрміновае для будучых пакаленняў чэрні прыгоннае права без магчымасці адчуць справядлівасць і палёгку хоць раз у год -- «на Юр`еў дзень».

У нашай краіне Канстытуцыя -- здань: убачыць яе можна, а прымяніць на сваю карысць -- ні ў якім разе.

**З мэтай выяўлення фактаў парушэння правоў чалавека ў паўночна-заходнім рэгіёне Віцебшчыны, з мэтай аказання бясплатных юрыдычных кансультацый і канкрэтнай дапамогі насельніцтву, з мэтай выхавання прававой культуры жыхароў шасці раёнаў рэгіёну і створана ГЛЫБОЦКАЕ ПРАДСТАЎНІЦТВА БЕЛАРУСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ ХЕЛЬСІНСКАГА КАМІТЭТА ПА ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА.**

Старшынёй прадстаўніцтва з`яўляецца Галіна Сутула, рэдактар незалежнай рэгіянальнай газеты «Вольнае Глыбокае», журналіст і пісьменніца, маці двух сыноў. Арганізацыя гэта грамадская, яе прадстаўнікі добраахвотна дапамагаюць людзям і чакаюць званкоў па тэлефонах **2 37 54** у Глыбокім (старшыня прадстаўніцтва), **2 14 28** у Браславе, **2 31 11** у вёсцы Заазерцы Шаркоўшчынскага раёна, **2 27 58** у Паставах альбо допісаў па адрасу: **211800, г. Глыбокае, вул. Валадарскага, 67, Глыбоцкае прадстаўніцтва БХК.**

*Л. Шпак*



Графіка В. Кліменкі

Гісторыя далёкая і блізкая

# Глыбоцкі стадыён -- месца пахавання нямецкіх салдат

**Рэшткі 527 салдат і афіцэраў вермахта, якія загінулі на тэрыторыі Беларусі ў гады Другой Сусветнай вайны, будуць перазахаваны на новым Глыбоцкім могільніку.**

Яшчэ ў 1998 годзе краязнаўца і выдавец газеты «Вольнае Глыбокае» ў артыкуле «Ці будзе ў Глыбокім «помнік невядомаму жаўнеру?»... Нямецкаму» пісаў: «У Глыбокім існуюць тры месцы, дзе пахаваны нямецкія жаўнеры часоў Другой Сусветнай вайны. Першае -- раён Троіцкага парафіяльнага касцёла. Пад праезднай часткай вуліцы Савецкай, 1-га Савецкага завулка, а таксама вакол храма знаходзяцца пахаванні нямецкіх афіцэраў. Увосень 1994 года, падчас земляных работ пры пракладцы цеплатрасы да дзіцячага садка, экскаватар выкапаў (на маіх вачах) 14 шкілетаў. Тое бачыў і ксёндз Троіцкага касцёла а.Ц. Клімовіч. Па словах жыхароў-старажылаў, якія назіралі тую карціну, трупы прывозілі на чыгуначную станцыю, адтуль аўтамабілямі на месца пахавання ля касцёла і на месца гарадскога саду (зараз па вуліцы Горкага стадыён). Другое: на стадыёне пахаваны нямецкія жаўнеры. Гадоў 25 таму назад бачыў, як грэйдэр, пляжаручы беговую дарожку, вываротваў дошкі ад трунаў і чалавечыя косткі. Знайшоў я тым часам іржавы кішэнны гадзіннік і запальнічку.

І трэцяе: усяго дзве магілы я знайшоў ля «бацянова гнязда» на Копцеўцы. На абедзвюх -- надмагільныя пліты з прозвішчамі, напісанымі па-нямецку».

Ул. Скарабатун ужо тады адзначаў, што «як бы мы не адносіліся да немцаў, ганяць мячык па могілках і ладзіць там гарадскія святы не этычна». Ён жа напісаў ліст у Германскае пасольства і паведаміў аб канкрэтных месцах пахавання нямецкіх салдат. Прайшлі гады. Пісьмовае паведамленне немцы без увагі не пакінулі, відаць, шмат папрацавалі ў сваіх архівах, каб прыйсці да высновы, што факты пра пахаванні ў Глыбокім не прыдуманыя. Да нас завітала нямецкая дэлегацыя. Атрымаць дакладную інфармацыю з першых вуснаў аб тым як ішлі перамовы, магчымасці няма, бо ў нас кожная інфармацыя, якая б зацікавіла чытачоў становіцца тайнай за сям`ю пячаткамі. Вядома, што немцы хацелі паставіць на стадыёне крыжы і пертварыць гэта месца ў могільнік. Супраць выказаліся былыя франтавікі, члены ветэранскай арганізацыі, што таксама зразумела: яны ў свой час пралівалі кроў, ваюючы з немцамі, а тут на вачах усталююць крыжы і глядзі на іх штодзень. І ўсё ж, гледзячы па ўсяму, немцы даражаць сваім мінулым, сваёй гісторыяй і будуць справядліва лічыць законнай Другую Сусветную вайну тады, калі апошні прыстанак апошняга нямецкага салдата будзе знойдзены, асвечаны і адзначаны. У педантычных немцаў хапіла цярпення, часу і грошай, каб важнае для іх пытанне вырашыць. На Глыбоцкім стадыёне ў пачатку мая сіламі салдат спецыяльнага батальёна рэспублікі пачаліся раскопкі месца пахавання. Немцы згадзіліся перазахаваць рэшткі цел сваіх грамадзян на новых глыбоцкіх могілках, а Глыбокаму выдзеліць сродкі для добраўпарадкавання стадыёна. Як часта пішуць у друку, «бакі прыйшлі да кампрамісу». За работай на аб`екце назіраюць прадстаўнікі Германіі. Месца работы абцягнута рознакаляровымі сцяжкамі, праз метры 2-3 стаяць таблічкі «праход забаронены», Ул. Скарабатун, выдавец «Вольнага Глыбокага» і журналіст, які быў ініцыятарам гэтай справы, 16 мая прыйшоў на стадыён, каб зрабіць некалькі здымкаў для газеты. Але не тут было. Нягледзячы на журналісцкае пасведчанне, маёр, які, дарэчы нават не прадставіўся, забараніў здымаць і загадаў засвятліць ужо зробленыя кадры. Растлумачыць важнасць дадзенай тэмы для жыхароў раёна і неабходнасць падрыхтоўкі матэрыялу не ўдалося. «Вам трэба мець дазвол начальніка штаба Міністэрства Абароны»,-- сказаў ён. Вось так. І хоць цытуй ты гэтаму маёру артыкул 19 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека ці артыкул 39-ты Закона аб друку, ці артыкул Канстытуцыі РБ 1996 г. аб праве здабываць і распаўсюджваць інфармацыю -- нічога не дапаможа. Навошта псаваць тады столькі паперы на гэтыя дакументы, калі ўсё права -- гэта нейкі маёр, ці яшчэ які чыноўнік, якому стукне ў галаву не «пушчаць», каб «чаго, дзе не выйшла». Цікава: прадстаўніку-немцу таксама патрэбен дазвол ці яму ўсё ж можна фатаграфаваць?... Гледзячы на зладжаную работу салдат, якія падставіўшы белыя худаватыя плечы майскаму сонцу дапамагалі вяртаць немцам іх гісторыю, я падумала пра тое, што немцаў паважаць ёсць за што. Для іх і жывы немец, і немец загінуўшы перш за ўсё іх грамадзянін, які мае права на пашану і гонар у сваёй Айчыне.

Мой дзядуля загінуў у пачатку мая ў Венгрыі, ля возера Балатон. Там была жорсткая бітва, дзе палеглі сотні чыіхсьці дзядуль і бацькоў. Калі прадстаўнікі Беларусі паспрабуюць вярнуць сваіх вядомых і безыменных герояў на радзіму? Калі мы зможам прыйсці да магілы, якая будзе канкрэтным месцам, а не ўсяго толькі кропкай на геаграфічнай карце? Польшча, Германія, Венгрыя, Італія... Раскідаў лёс землякоў-беларусаў... Ды што там гаварыць пра загінуўшых. У нас на жывых ніхто не звяртае ўвагі... Кожная нацыя займае ў гісторыі тое месца, якое яна заслугоўвае.

*Галіна Звонка*



Фота Ул. Скрабатуна

Урочышча Барок -- вечны прыстанак салдат Другой Сусветнай вайны.



Фота Надзеі Скрабатун

**Колькі разоў заваёўнікі ні рабілі наезды на Мірскі замак, колькі ні бурылі, ён штораз адбудоўваўся з яшчэ большай веліччу! Сучасныя астролагі нават сцвярджаюць, што пакуль не будзе зноў цалкам адбудаваны і адрэстаўраваны гэты замак, Беларусь не стане на шлях сапраўднага адраджэння.**

**Вучні СШ №3 г. Глыбокае разам з настаўніцай беларускай мовы і літаратуры Т.Ф. Барткевіч на экскурсіі ў Мірскім замку, які знаходзіцца пад эгідай ЮНЕСКА.**

Крымінал

# «Запирайте этажи, нынче будут грабежи»

### Злодзей і кіраўнік у адной асобе

Нядаўна супрацоўнікі аддзела міліцыі па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі Пастаўскага РАУС выявілі факт крадзяжу ядахімікатаў. Злодзеем аказаўся жыхар вёскі Юнькі, ён жа галоўны аграном калгаса «Сцяг Перамогі».

### Сын забіў бацьку

Закончана следства па справе 42-гадовага жыхара вёскі Дубоўшчына Глыбоцкага раёна, раней неаднаразова судзімага. У 1998 годзе ён вярнуўся з турмы, працаваў у калгасе, жыў разам з бацькам. Калі пілі, біліся. Спрэчка паміж бацькам і сынам скончылася назаўсёды 12 снежня мінулага года. У той дзень з раніцы яны апаражнілі бутэльку гарэлкі. Сыну забаранілі працаваць на ферме. У абед ён зноў дастаў дзве бутэлькі « чарніл» і выпіў разам з бацькам. Пазней пачалася разборка. Сын даказваў сваю правату з дапамогай кулакоў і ног. Бацька атрымаў траўматычны шок і памёр. На наступны дзень сын заявіў суседзям, што бацька памёр. Але суд прызнаў яго вінаватым і мужчыну чакае 19 год турмы з прымусовым лячэннем ад алкагалізму. Ад адсідкі да новага злачынства прайшло усяго год..

*А. Грыгор`еў.*

### З нажом на ўчастковага

За 13 год службы ў міліцыі участковаму інспектару Пастаўскага РАУС Вячаславу Мацюшонку даводзілася разбірацца з рознымі «кліентамі». Работы паболела, калі ён стаў абслугоўваць амаль 100 гектараў водных угоддзяў рыбгаспадаркі «Навінкі».Старшыня міліцыі неаднойчы штрафаваў ахвотнікаў дармавой рыбкі і з Шаркоўшчынскага, і з Глыбоцкага раёнаў. Вечарам 23 мая міліцыянеру не падпарадкаваліся трое незнаёмцаў з вудачкамі. Яны накінуліся на чалавека ў форме. Адзін з нападаючых, раней двойчы судзімы, нажом скрамсаў форму ахоўніка, парэзаў левую руку. Абараняючыся, міліцыянер зрабіў спачатку папераджальны стрэл уверх, а затым выстраліў па нагах браканьераў. На падмогу ўчастковаму выехала апергрупа з раёна на чале з намеснікам начальніка РАУС, начальнікам крымінальнай міліцыі, падпалкоўнікам В. Пуцічам. З дапамогай калег з Шаркоўшчыны ў тую ж ноч па прыкметах браканьераў затрымалі. Іх узрост 25, 27 і 49 год. Іх узялі соннымі з ложкаў у вёсках Радзюкі і Жэўніца. Усе яны не працавалі, двое пабылі ў турме. Адзін з затрыманых казах, які мае беларускае грамадзянства. Пад ахову ўзяты самы агрэсіўны і наймеш пацярпелы з браканьераў. Двое падлечваюць у бальніцы прастрэленыя ногі. За непадпарадкаванне работнікам міліцыі парушальнікам пагражае тэрмін ад 1 да 5 год.

### Заснуў і не прачнуўся

3 траўня, раніцой,у полі, ў двух кіламетрах ад вёскі Луцк- Мосарскі Глыбоцкага раёна жыхары знайшлі труп мужчыны. Вакол яго згарэла трава. Як высветлілася пазней, гэта быў нідзе не працуючы мясцовы жыхар 1955 года нараджэння. Хутчэй за ўсё мужчына быў п`яны і, не патушыўшы цыгарэту, заснуў у полі. Падобная трагедыя ў вобласці не адзіная.

Трагічнае здарэнне

# Калгасы патрабуюць новых ахвяр

22 чэрвеня з перапоўненага старэнькага аўтобуса вывалілася і атрымала цяжкія траўмы вучаніца 9-га класа Суклінскай школы Насця С. Аўтобус ехаў па разбітай дарозе, у ім без дагляду дарослых знаходзіліся дзеці, якія ехалі збіраць каласкі на полі. Трагедыя адбылася ў калгасе «Кастрычнік» Глыбоцкага раёна. Няшчасным бацькам старшыня выдзеліў 10 тысяч рублёў з майскага нявыплачанага заробку. За здароўе дзяўчынкі «ваююць» медыкі абласнога цэнтра. Падобны выпадак, які азмрочыў працэдуру ўручэння атэстатаў выпускнікам Суклінскай школы, не адзіны. Пакуль будзе захоўвацца калгасны лад, «бітвы за ўраджай» будуць патрабаваць новых дзіцячых ахвяр.

Да слова, год назад у тым жа калгасе, на пілараме, непаўналетняму адрэзала нагу.

Бацькі! Дакуль вы будзеце маўчаць і трываць здзек над уласнымі дзецьмі?

*У. Шык*

✍ Уладзімір ШЫК, журналіст, г. Паставы

Інтэрв`ю ў нумар

# Добры дзень, маэстра!



**Гэтага руплівага, сціплага чалавека ў Глыбокім ведаюць і старыя, і малыя. Рэдкія канцэрты ў Доме культуры, значныя асабістыя юбілеі глыбачан, ранішнікі і школьныя святы абыходзяцца без яго цудоўнай і задушэўнай музыкі. Браніслаў Браніслававіч Грамоўскі нікому ніколі не адмаўляе, бо як жа можна адмовіць у магчымасці паслухаць і парадавацца прыгожаму?! Прыгажосць яго душы, яго перажыванні, жыццё, творчыя адчуванні,навакольны свет ужо колькі год знаходзяць выражэнне на лінейках нотных сшыткаў. Скачуць нулікі за скрыпічным ключом, а з душы выплывае мелодыя, мелодыя ўзнёслай фантазіі і белай птушкай садзіцца на клавішы... Браніслаў Грамакоўскі, ураджэнец Шклоўшчыны, мае ад роду 44 гады. Штогод, у разгар баб`я лета, у верасні,адзначае дзень нараджэння. Па прафесіі ён музыкант-дырыжор. Скончыў Віцебскае культпрасветвучылішча, вучыўся ў Мінскім інстытуце культуры, працаваў на Браслаўшчыне. З 1983 праўце настаўнікам музыкі ў СШ №2 г Глыбокае. Дыпламант Усесаюзнага конкурсу самадзейнай песні, лаўрэат многіх рэспубліканскіх песенных фестываляў. Кампазітар. Ён стварыў больш двухсот песень на словы беларускіх, рускіх аўтараў, а таксама на ўласныя вершы. З цеплатой і любоў`ю прымалі Браніслава Грамакоўскага ў сталічным Доме літаратара. Адным словам, Браніслаў Браніславіч адзін з тых людзей, пра якіх кажуць: «Каб не ён, хто б дзе ведаў, што ў Беларусі існуе Глыбокае».**

**Кар. «ВГ»:** *Добры дзень, маэстра! Ведаю, што Вашы песні заваявалі сімпатыі нават пераборлівых сталічных знаўцаў музыкі. Пра Вашу творчасць добра выказаўся мэтр беларускай эстрады Ігар Лучанок. Чаго не хапае, каб трапіць ў лік вядучых музыкантаў нашай краіны?*

**Б.Г.:** Сустрэча з Лучанком у мяне сапраўды была. Замест пяці запланаваных на сустрэчу хвілін ён адвёў нашаму знаёмству паўтары гадзіны. І музыку маю выконваў, і шмат чаго добрага казаў, а на развітанне сумна прарочыў, што гібець мне і далей у Глыбокім. «Музыка каштоўная,-- сказаў ён,-- але зараз такі час, што патрэбны вялікія грошы, каб «раскруціцца». Сказаў праўду, але я быў прыемна ўражаны падтрымкай Лучанка, які адзначыў добры густ у падборы тэкстаў да песень. Яго прагноз спраўдзіўся. Другая сустрэча адбылася ў Мінску ў Доме афіцэраў з нагоды 60-годдзя сістэмы сацзабеспячэння. Тады я зразумеў, што не толькі расійская шоу-музыка, але і наша -- гэта часцей за ўсё інтрыгі, «грязные деньги», якія круцяцца ў цесным коле. Былі ў мяне сустрэчы з Фінбергам, з некаторымі выканаўцамі. Якаў Навуменка хацеў узяць некалькі маіх песень у свой рэпертуар, але назваў вялікую суму ў доларах на аранжыроўку. Раінчык прымусіў мяне доўга чакаць, а потым непрыкметна знік. Зразумела, што можна ўзяць з жабрака-настаўніка без сувязяў і высокіх заступнікаў?! Адзін Ярмоленка адкрыта сказаў, што я чалавек не іхняга асяродку. Больш па «інстанцыях» я не хадзіў, займаюся любімай справай дома, як і раней. Пішу лірычныя, баладныя, сантыментальныя песні. Ноты шасці дзіцячых песень нядаўна апублікавалі рэспубліканскія газеты «Раніца» і «Зорька». Маю шмат запрашэнняў спяваць тут, у Глыбокім. Быў расчулены, калі пасля аднаго канцэрта ў сталіцы з нагоды дня незалежнасці Польшчы мне асабіста падзячны пасол і генконсул Польшчы. Для іх не мае значэння, што я праваслаўны беларус, талент яны паважаюць. На жаль, на радзіме ў поўнай меры мы не запатрабаваны.

**Кар.«ВГ»:** *Значыць, Вы болей не імкнецеся да высокіх мэт, а ствараеце музыку для душы?*

**Б.Г.:** Так. Я, вядома ж, не супраць каб музыка, акрамя замілавання, прыносіла і дадатковы заробак. У мяне ж двое студэнтаў у сям'і. Дачка Таня займаецца ў Мінску на філалагічным факультэце універсітэта імя М. Танка. Сын Андрэй -- студэнт Віцебскага тэхналагічнага інстытута. Калі дзеці на вучобе, жыву адзін, калі не лічыць музыкі, якая заўсёды, як верная спадарожніца, са мной. Рэальна разумею, што там, на музычным Парнасе, усе нішы заняты, але чамусьці ўпэўнены, што мне яшчэ ўдасца заявіць пра сябе.

**Кар.«ВГ»:** *Пісаць сапраўдную музыку, мне здаецца, складаней, страчыць хадавы дэтэктыў. Як Вы прыйшлі ў творчасць?*

**Б.Г.:** З дзяцінства шлях быў не асэнсаваны. Памятаю, школьнікам любіў спяваць, слухаць прыгожую музыку. Пазней мой галоўны сааўтар, зямляк, кіраўнік Глыбоцка-Полацкай філіі Саюза беларускіх пісьменнікаў А. Жыгуноў прысвяціў мне верш. Нешта падштурхнула пакласці вершы на музыку. З гэтага ўсё і пайшло. Затым шукаў тэксты па зборніках паэзіі, шмат чытаў, навучыўся адчуваць слова і адрозніваць «золата», ад падробак. Да таго ж, наш Глыбоцкі край багаты паэтамі, празаікамі. Яны прапаноўваюць свае тэксты. Адкуль такая цяга ствараць музыку? Напэўна, у песні, музыцы я выказваю тое, што звычайнымі словамі сказаць немагчыма. Іншы раз прачынаюся сярод ночы і саджуся за піяніна. А каб прымусіць сябе напісаць нешта ў пэўны час, нельга, не атрымоўваецца. Творчасць не ўспрымае падобную дыктатуру. Ёсць у мяне песні на словы Генадзя Бураўкіна, Навума Гальпяровіча, Уладзіміра Мазго, Міколы Трафімука, Алеся Пісьмянкова, Алы Канапелькі, Ганны Пяткевіч.

**Кар. «ВГ»:** *Неаднойчы чуў захапленні гледачоў Вашай творчай працай. А на экранах тэлевізараў і ў радыёэфіры такая, часам, пустата і дзікунства.*

**Б.Г.:** Калі чую словы «я те дам, что ты хош», мне робіцца ніякавата. Слухаю па тэлебачанні старыя песні фестывалю «Залаты шлягер» і параўноўваю іх тэксты з цяперашнімі і згаджаюся з Мікітай Багуслаўскім, што Ігар Крутой не кампазітар, а «тапёр». А за ім жа цэлая імперыя, «мафія» расійскай эстрады! Адны і тыя ж імёны, шалёныя грошы. Гледачоў кормяць тым, чаго яны чакаюць: каб ні думаць асабліва не трэба было, ні душу аблагароджваць. У большасці сучасных «хітоў» няма сапраўдных пачуццяў. Праз пару год такія песні і не ўспомніш.

**Кар. «ВГ»:** *Як Вы адносіцеся да музыкальнай «тэорыі хвалі» Эдуарда Ханка?*

**Б.Г.:** З Ханком не знаёмы. Ці шчыры ён у сваіх перакананнях ці гэта спроба падняць інтарэс да сябе -- невядома. Але яго жорсткія адзнакі наўрад ці на карысць справе і людзям.

**Кар.«ВГ»:** *Вы працуеце з дзецьмі і падлеткамі. Як на іх уплывае ў працэсе выхавання музыка?*

**Б.Г.:** Калі мелодыя светлая, жыццезацвярджаючая, то ўплыў толькі дадатны. Выхаванне прыгажосцю яшчэ нікога не сапсавала. Школа -- гэта для мяне адтуліна, праз якую мая энергія передаецца дзецям. Мы разам ладзім канцэрты, ранішнікі, спяваем ля кастроў. Той, хто любіць музыку, той і вучыцца лепш, і цікавіцца многім. Дзяржава недаацэньвае выхаваўчае значэнне музыкі, не прыслухоўваецца да думкі спецыялістаў. А якую музыку моладзь слухае, такой і вырастае. Калі музыка Моцарта садзейнічае разумовым здольнасцям чалавека (а гэта даказалі даследванні), калі ад спакойнай мелодыі нават дзіця лепш развіваецца ў чэраве маці, то музыка сучасная, падчас агрэсіўная, рэзкая, абрывістая ўплывае на паводзіны, якія будуць далёка ад прыстойных.

**Кар. «ВГ»:** *Кажуць, што прыгажосць выратуе свет. А асабіста Вас яна ратуе ад жыццёвых нягод?*

**Б.Г.:** Безумоўна. Для мяне музыка -- багацце, яна -- сэнс жыцця, выхавання маіх дзяцей, шлях пазнання Сусвету. З песняй лягчэй жывецца. Музыка выратавала мяне, калі здарылася, здавалася б, непераадольная цяжкасць і хацелася заціць. Можа з Божай ласкі, але яна мяне вылечыла, душа не ачарсцвела і я па-ранейшаму люблю жыццё. Шкада, што беларуская музыка -- копія расійскай, не мае свайго «твару». Нам, беларусам, трэба захоўваць дзяржаўнасць і ў мове, і ў музыцы, і ў кіно. Важна працягваць выражаць свой нацыянальны характар, а не капіраваць некага.

**Кар. «ВГ»:** *І ўсё ж сказаць, што поспех, вядомасць абышлі вас бокам нельга.*

**Б.Г.:** Лепшая ўзнагарода для мяне, калі бачу, што залы, дзе я выступаю, поўныя. Так было і ў Ушачах, і ў Браславе. Няхай залы невялікія, але ж у іх людзі, якія чакаюць прыгажосці. І я буду несці яе. Буду працаваць, на паўшляху не спынюся, бо веру, што поспех прыходзіць толькі да тых, хто нястомна імкнецца да вызначанай мэты.

## Адны--на пляж, другія--на агароды

Жыццё якое яно ёсць

Перш чым калгасна-саўгасная сістэма канчаткова зжыве сябе, яна яшчэ не раз пакрыўдзіць самых заслужаных ветэранаў працы. Не кожны зразумее, што рабілася ў душы пенсіянеркі Любові Варган з сяла Малыя Сітцы Докшыцкага раёна, калі яна з-за недахопу кармоў вымушана была развітацца са сваёй прыгажуняй-кармілецькай. Карову жанчына прадала. У складаны перыяд жыцця родная гаспадарка сялянцы нічым не паспрыяла. А працавала Люба ў калгасе з 14 год. 35 гадкоў, як праклятая, без выхадных і водпускаў, шчыравала на свінаферме саўгаса «Сітцы». Яе імя было вядома ўсёй краіне. Напрацягу пяцігодкі яна атрымоўвала ад кожнай свінаматкі па 20 парасят! Радзіма адзначыла яе заслугі двума ордэнамі Леніна і вылучэннем па «разнарадцы» дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. Сёння перадавая свінарка апынулася ў ролі жабрачкі. Ранейшыя зберажэнні на ашчаднай кніжцы ператварыліся ў капейкі. За ўсё жыццё жанчына не пабачыла свет, не адпачыла ў санаторыі. Ёй няўцям, што пакуль такія ж бабулькі, як яна ў Беларусі лічаць дні да сціплай пенсіі і збіраюць на пахаванне, замежныя равеснікі бесклапотна баваць час на заморскіх курортах, радуючыся сонцу і цяплу. Наша дзяржава толькі нямногім, выбраным забяспечвае падобнае жыццё.

Зусім іншы лёс выпаў ураджэнкі Глыбокага Соф'і Кухта. Вывезеная ў гады вайны ў Германію, пасля вызвалення яна выйшла замуж і выехала ў Галандыю, дзе жыве да цяперашняга. Соф'я не працавала ніводнага дня, а дасягнуўшы 65-гадовага ўзросту, атрымала пенсію ў 550 долараў. Гэта рухавая, жыццярадасная жанчына ў свае 82 гады ездзіць па курортах, разам з мужам пабывала ў Іспаніі, Італіі, Марока, Андоры, на Кубе і на Канарскіх астравах. Летась прыязджала ў Беларусь. Каму з нас нават у сне можа бачыцца падобнае?

*У. Шык*


Фота Ул. Скрабатун

Вёска Залессе, возера Белае.

Краязнаўчае даследванне

# Гісторыя на старых фотаздымках

**Што мы называем самым мудрым вынаходніцтвам чалавецтва? Звычайнае кола, якое зрабіла сапраўдную рэвалюцыю ў жыцці зямлян. З пэўнай доляй упэўненасці не менш значным дасягненнем чалавечай думкі можна назваць і адкрыццё фатаграфіі. Сапраўды, фотасправа, здымкі настолькі трывала ўвайшлі ў наша жыццё, што мы і уявіць сабе не можам, як чалавек даўней абыходзіўся без гэтага. Мець на памяць картку сваёй асобы ў дзяцінстве, мець магчымасць у любую хвіліну зазірнуць у фотаальбом і ўбачыць мілыя рысы сваёй каханай, маці, родных -- што можа быць прыемней?! Між іншым, гісторыя фатаграфіі зусім юнацкая. Кола было вынайдзена на досвітку цывілізацыі, а фатаграфія -- 7 студзеня 1839 года ў Францыі мастаком Луі Жакам Дагерам. І першыя фотаздымкі называлі па яго імені «дагератыпамі». Яны былі зусім непадобныя на сучасныя, бо прадстаўлялі сабой медныя пласцінкі з нанесеным зверху срэбрам.**

**Мы павядзём гаворку аб больш блізкім да нас часе: фотаздымках пачатку XX стагоддзя, перыядзе першай Сусветнай вайны, 1920 -- 30-ых гадах**

***




На пачатку стагоддзя кожны горад ужо меў фотастудыю або «светлапісны кабінет». Буйныя гарады маглі пахваліцца і некалькімі фотаатэлье. У Мінску, напрыклад, у 1898 годзе налічвалася 11 студый. Багацейшыя фотамайстры, тыя, хто валодаў вялікім вопытам фотасправы, мелі фінансавую аснову, маглі трымаць сапраўды шыкоўныя павільёны. Сто год назад павільёны ўпрыгожваліся карункавай драпіроўкай, пераноснымі фонамі ў выглядзе вялікіх шчытоў з прыроднымі краявідамі. Абавязковым атрыбутам падчас здымак была мэбля: крэслы з вычурнымі падлакотнікамі, этажэрачкі, столікі, вазы з кветкамі, лавачкі і іншыя дробязі. Усё гэта рабіла фон больш утульным, натуральным, надавала фотаздымку жывасць і рэальнасць.



Дарэвалюцыйныя фотаздымкі заўсёды выклікаюць павагу і непадробнае захапленне, бо ў той час кожнаму здымку адпавядала сваё «паспарту» -- спецыяльная кардонная аснова пад здымкам. Уладальнік студыі заўсёды імкнуўся рабіць паспарту адмыслова, бо гэта ж быў твар яго прадукцыі. Былі такія выпадкі, калі студыю трымалі асабіста фатограф і мастак, на паспарту чытаўся надпіс: «мастак імператарскай Акадэміі мастацтваў», а побач -- прозвішча фатографа. Падобнае супрацоўніцтва рабіла гучную рэкламу. Былі паспарту з рэльефным або пазалочаным цісненнем. Абавязкова змяшчаліся дадзеныя аб фотастудыі, адрас, усе ўзнагароды, атрыманыя на фотавыставах. Інфармацыя ўпрыгожвалася віньеткамі, кветкамі, карункамі. Паспарту з`яўляліся свайго роду візітоўкамі майстроў, а для краязнаўцаў, дзякуючы сваёй інфармацыйнасці, яны сталі каштоўнай крыніцай даследвання. Пазней фотаздымкі патаннелі коштам, бо фота з паспарту каштавала вялікіх грошай і не кожны кліент мог дазволіць сабе шыкоўную картку. Да таго ж і час набліжаўся другі: наспявала вайна 1914 г., а разам з ёй сусветны фінансавы крызіс. Гэты працэс адбіўся на якасці фотаздымкаў. Яны сталі выглядаць як сучасныя і як дзве кроплі вады падобныя адзін на адзін, на тонкай паперы, без аніякіх прыкмет уладальніка. Шкада, што шмат імён майстроў фотасправы назаўсёды страчаны для гісторыі.

***

А цяпер звернемся да канкрэтных прыкладаў. Я хачу прапанаваць Вам невялічкі экскурс у гісторыю фотаздымкаў на аснове тых экспанатаў, што маюцца ў **фондах краязнаўчага музея Лучайскай школы.** Усе людзі, што навечна засталіся на фатаграфічных картках, нашы землякі. Калісьці лёс раскідаў іх па розных кутках Расіі, Еўропы, Амерыкі. Многія з іх вярталіся сюды, на Залесчыну, жылі і працавалі тут, а нам пакінулі фотаздымкі. Геаграфія картак уражвае. Вось сямейнае фота мяшчан. Пачатак XX стагоддзя. Далёкі Усход, г. Нікольск-Усурыйскі, фотастудыя З. Ясуда. Паспарту прываблівае незвычайным сюжэтам: двое крылатых анёлкаў трымаюць фотаапарат, перавіты гірляндамі кветак, унізе веерам сыплюцца здымкі, а ўверсе -- мудрагелістыя кітайскія іерогліфы... Экзотыка!

На другім здымку сямейная пара. Як прыгожа выглядае далікатная маладзіца ў белай сукенцы побач з мужам! Ён -- упэўнены ў сабе гаспадар з пышнымі вусамі ***"a la Nicolai II"*** (абавязковы атрыбут сапраўднага мужчыны 1900-х гг.), у руцэ файны капялюш, на лацкане пінжака -- букецік кветак. Прыгожы і ўрачысты фон стварае высокая тумба з фігурнай вазай і кветкамі. Групавы здымак купецкага сямейства таго ж часу здзіўляе насычаным інтэр`ерам: тут і столікі, і вазачкі, і этажэркі, і




нават ... сабака дзіўнай пароды, які здаецца бутафорскім. Заўважаем і адзнакі прэстыжнага адзення: строгі мужчынскі касцюм-тройка, пінжак абавязкова нараспашку, бо трэба ж паказаць, што з кішэні камізэлькі звісае ланцужок срэбнага гадзінніка.



Папулярнымі ў вышэйзгаданыя гады былі многія студыі. Для большага шыку гаспадары надавалі сваім атэлье гучныя назвы: *«Фотографія "Русь" братьевъ Кулыгиныхъ, г. Москва, уголъ Полянки и Серпуховской площади, домъ наследниковъ Любушкиной».* Такі «крыклівы» надпіс прываблівае многіх кліентаў. Славіліся вядомасцю фотастудыя Д. Выржыкоўскага ў Рызе, артыстычная фатаграфія «Бернарди» Д. Калецкага ў Беластоку, атэлье «Рафаэль» ў Вільні.

Цікавыя здымкі ваеннаслужачых царскай арміі. Тут можна ўбачыць жандараў маскоўскай роты, афіцэраў, салдат. Адзін фотаздымак наогул арыгінальнейшы. На ім мы бачым лейб-гвардзейца 3-га стралковага палка роты Яго Вялікасці імператара Мікалая II. Гвардзеец з аголенай шабляй, у кірасе з султанам, у гусарскім менціку. Урачысты фон, праўда, выклікае ўсмешку, бо фота так нагадвае нашы сучасныя «дэмбельскія» альбомы! Прымітыўныя малюнкі перакрыжаваных шабляў, гармат, сцягоў. А «самае-самае» -- гэта ... вялізны снарад з мішэнню і надпіс: *« В память моей военной службы 1915 г.».* Адзін з фотаздымкаў даносіць суровы подых вайны. На нас глядзяць вочы салдата, стомленыя і сумныя. Просты надпіс *«Въ память Европейской войны 1914-1915 гг.».* гаворыць аб многім...

У гэтыя гады з`яўляецца новы від фотаздымкаў -- фотапаштоўкі. Адваротны бок іх мае месца для гербавай маркі, тэксту віншавання і допісу. Робіцца надпіс на некалькіх мовах: **«Почтовая карточка -- Pocztowka -- Carte Postale»,** або проста **«POST CARD».** Цікавы сюжэт занатаваны на адным фотаздымку такога тыпу: 1916 год, трое салдат са зброяй (вінтоўкі з прымкнутымі штыкамі). Задні фон -- магчыма, вакзал, бо праглядаецца састаў цягніка. Подпіс сведчыць, што перад намі байцы 261-га маршавага батальёна 12-ай роты. У цэнтры сядзіць Савелій Раціловскі, жыхар вёскі Заборцы. Напэўна, здымкі праходзілі ў спешнай абстаноўцы, магчыма, перад адпраўкай на фронт. Пары маладзенькіх салдат разгубленыя... Адзін вайсковец зашпіліў дзягу спражкай дагары, і царскі арол на ёй выглядае даволі камічна...



***

Фотаздымкі 20-30-х гадоў прадстаўляюць тыпажы розных сацыяльных слаёў горада і вёскі, найбольш распаўсюджаныя -- жаўнеры Рэчы Паспалітай. Нашы хлопцы ўсе на адзін твар: коратка стрыжаныя, у канфедэратках, з шаблямі. Затое фотаздымкі з эміграцыі гэтага перыяду заўсёды даносяць да нас адметнашыкоўны подых замежжа. Карткі з Аргенціны, ЗША, Канады зроблены на высокім узроўні. Вычурны фон, мудрагелістая драпіроўка, распісныя вазы, гарадскія выдарысы і замкі, нават пальмы і экзатычныя расліны прысутнічаюць у сюжэтах. Некаторыя эмігранты дасылалі ў дар сваім родным не проста фота на памяць; а дзіўныя міні-альбомы з дзюх-трох старонак, што для нашых вёсачак было сапраўдным дзівам...

***

... Подых далёкіх часоў, мода, інтэр`ер, будынкі, чалавечыя лёсы, гісторыя ў адным імгненні -- усё гэта нам дорыць фатаграфія, каштоўнейшая крыніца краязнаўчага даследвання. Цяжка ўсвядоміць значнасць гэтага вынаходніцтва для чалавецтва, але лёгка зразумець, што да любога старога фотаздымка трэба адносіцца беражліва, уважліва, з любоўю, і ён Вам шмат чаго раскажа, адкрые не адну таямніцу.

**Р.Л. Шарыпкін,**
***настаўнік Лучайскай БШ, краязнаўца.***



# РЭГІЯНАЛЬНЫ ЭКСПРЭС

## Сіроты пры жывой матулі

У перапоўненай зале Дома культуры гарпасёлка Бягомль прайшло адно з выязных пасяджэнняў суда Докшыцкага раёна. Многія прысутныя не хавалі сваіх слёз, калі чулі пра беды трох мясцовых дзетак. Пасля смерці бацькі жыццё дзяцей з айчымам стала невыносным з-за пастаянных п`янак, адсутнасці грошай і прадуктаў харчавання. Адной дачкой стала поўнасцю займацца мясцовая школа, якая і хадайнічала аб пазбаўленні непрацуючай Т. бацькоўскіх правоў. У дні запояў даросламу сыну Максіму прыходзілася спаць на сене. У выніку разбіральніцтва суд яшчэ трох дзетак аднёс да катэгорыі дзяцей-сірот пры жывой матулі. Малаверагодна, што з гэтай жанчыны ўдасца спагнаць аліменты. Сітуацыя, на жаль, тыповая і распаўсюджаная. Без бацькоўскай апекі і ласкі толькі на Віцебшчыне ў 25-ці перапоўненых інтэрнатах, дзіцячых дамах і прытулках выхоўваецца звыш 4 тысяч падлеткаў.

*У. Шык.*

## Такія розныя падзенні

Падобна на тое, што падзенні з вышыні сёлета сталі ў Віцебску новай страшнай традыцыяй. Спачатку днём з акна шостага паверха ўпала 55-гадовая невядомая і разбілася насмерць. На наступны дзень, раніцой, з акна сваёй кватэры на вуліцы Чкалава выкінулася 50-гадовая жанчына, інвалід другой групы.На шчасце, звалілася яна на кусты, пашкодзіла толькі грудную клетку і зараз лечыцца ў траўматалагічным аддзяленні бальніцы. Шчаслівы лёс дапамог выратавацца і адзінокай 80-гадовай бабулі з гарадской кватэры. Старая як лягла ў ванну ў суботу памыцца, так і праляжала ў ёй да панядзелка. У няшчаснай моцна балелі ногі і самастойна выбрацца з вадзяной пасткі яна проста не змагла. Добра, што адчайныя крыкі аб дапамозе пачулі суседзі, якія і выклікалі выратавальны атрад «Віктя». Байцам прыйшлося лезці праз фортку на чацвёртым паверсе, каб выратаваць старую.

*У. Шытаў*

## Не жаночая справа трактарам кіраваць

Імкненне да апошняга чапляцца за старое, адкуваючае выдзяляе нашу дзяржаву сярод цывілізаваных еўрапейскіх краін. Як даніну павагі вёсцы, вызначыла афіцыйная прапаганда ўручэнне на тэрыторыі заходне-дзвінскага межрайаграпрамтэхсервіса жанчынам-механізатарам і жанчынам-кіраўнікам гаспадарак Віцебшчыны ключоў ад новых трактароў МТЗ-82. Мерапрыемства праходзіла з удзелам абласнога кіраўніцтва. Селі дамы ў кабіны і ў калоне з 22 трактароў зрабілі кола гонару. Яшчэ адзін трактар аддалі Дубровенскаму СПТВ, а тры дасталіся пераможцам абласнога конкурсу па добраўпарадкаванню калгасаў і саўгасаў вобласці. Мала таго, што праца на вёсцы заўсёды была на знос, яна прывяла да недахопу больш трох тысяч механізатарскіх кадраў. З калгаснікаў і іх сем`яў па-ранейшаму здзекуюцца, месяцамі не выплочваюць сціплую зарплату. Здаецца, найлепшым падарункам вясковым жанчынам-працаўніцам былі б не трактары і «роба», а дастатак, дабрабыт, адпачынак, які яны заслужылі за шмат год сваёй нялёгкай працы.

*У. Шытаў*

## Валерый Шчукін не мае намеру падпарадкоўвацца рашэнню суда

19 чэрвеня журналісту, дэпутату, актыўнаму грамадскаму дзеячу Валерыю Шчукіну быў вынесены прысуд за актыўны ўдзел у арганізаванай апазіцыяй ў кастрычніку 1999 г. акцыі пратэсту «Марш Свабоды», якая закончылася масавымі сутычкамі дэманстрантаў і міліцыі. Яго прыгаварылі да года турмы з адтэрміноўкай пакарання на 1 год. В. Шчукін назваў гэты прысуд «палітычнай расправай» над сабой. Дэпутат не прыняў адтэрміноўку і мае намер прыбыць на ўказанае судом месца для адбыцця прызначанага яму тэрміну пазбаўлення волі.

*Ю. Пацёмкін, БелаПАН*

## У Маскве затрыманы рабаўнікі банкаў

Злачынная групоўка ўкрала 40 тысяч долараў у дзесятка камерцыйных банкаў Масквы. Гэта было зроблена па падробных плацёжных дакументах і пашпартах. Грошы рабаўнікі кралі праз банкаматы, выкарыстоўваючы сапраўдныя пластыкавыя карткі. Камерцыйны ўрон банкам Масквы і Расіі, якія нанеслі злачынцы, вымяраюцца сумай ў сто тысяч долараў. Арыштаваны пяць чалавек.

*А. Зайцаў*



Гарачая пара сенанос у на Глыбоччыне

## Адпачынак... на асфальце і на калгасным полі

З наступленнем лета ў многіх бацькоў паўстаюць праблемы дзе і чым заняць сваіх дзяцей на час летніх канікулаў. Нават у Віцебску сёлета засталіся прадстаўленымі самі сабе 18600 школьнікаў. Калі няма на вёсцы бабулек, радні, зноў прыйдзецца бадзяцца ім тры месяцы ў сваім двары. Пашчасціла толькі тым, хто трапіць ў адзін з 30 аздараўленчых і 87 прышкольных лагераў, якія ніяк не могуць прыняць усіх жадаючых адпачыць і заняцца карыснай справай. Яшчэ горшая сітуацыя ў глыбінцы. Так, з сямі тысяч школьнікаў у эканамічна моцным Глыбоцкім раёне паўнацэнны адпачынак у летнім лагеры «Ізумрудны» і на дзвюх базах атрымаюць толькі 510 вучняў. Яшчэ 850 хлопчыкаў і дзяўчынак накіруюцца ў профільныя лагеры працы і адпачынку, дзе шмат работы на калгасных палетках. Паколькі ў асноўнай масы насельніцтва даходы зараз невялікія, недаступнай марай для большасці застаецца мара пабываць на моры або за межамі краіны.

*Я. Савойка*

## Трагедыя ля рыбацкага вогнішча

Да гэтага часу не могуць прыйсці ў сябе двое сяброў, якія разам з ветурачом калгаса «Маяк» Браслаўскага раёна нядаўна адправіліся парыбачыць на возера Палошча. Умела паставілі сетку, а вечарам выцягнулі багаты ўлоў. Потым ля разведзенага вогнішча добра адзначылі гэту падзею. Калі на досвітку прачнуліся, з жахам убачылі свайго таварыша мёртвым. Якім чынам нябожчык трапіў у вогнішча, кампаньёны не бачылі і не чулі, аднак, на непрыемныя пытанні следчых ім прыйдзецца даваць падрабязныя тлумачэнні. На жаль, вельмі часта адпачынак ля вады суправаджаецца ў нас чаркай, што прыводзіць да павелічэння падобных трагедый.

Толькі ў красавіку на Віцебшчыне ўтапілася 30 чалавек, 9 з іх займаліся незаконным ловам пад хмяльком.

*У. Шык*



Рамонкавы рай

## Дзеці выратавалі лес

Толькі пачаў дзейнічаць на Глыбоччыне забарон наведваць лясы і тарфянікі, як клубы чорнага дыму ўзвіліся над лясным масівам каля вёскі Чарневічы. Гэта ўбачылі трое малодшых вучняў мясцовай школы. Нягледзячы на ўзрост, Ігар Бабіч, Лёша Бортнік і Рома Банькоўскі пачалі тушыць пажар. Крыху пазней ім на падмогу падбеглі двое рабочых лясніка. Умела арганізаваў дзяцей вадзіцель калгаса імя Чкалава Віктар Рамашка, які таксама аказаўся на месцы здарэння. Канчаткова ж ліквідаваць агонь дапамаглі работнікі Празароцкага лясніцтва. Хочацца падзякаваць юных пажарных Чарневіцкай школы за смеласць, вытрымку і іх імкненне ўратаваць прыроду.

*У. Шык*

## Пасяджэнне калегіі Мінпрыроды

Яно адбылося 27 чэрвеня ў Браславе. У яго рабоце прынялі ўдзел У.Ганчарэнка, які кіруе справамі прэзідэнта; міністр прыродных рэсурсаў і аховы акаляючага асяроддзя М. Русый; міністр лясной гаспадаркі В. Зорын; намеснік старшыні Віцебскага аблвыканкама К.Хоміч, прадстаўнікі мясцовых улад. На пасяджэнні разглядаліся пытанні захавання прыроднага заканадаўства. Галоўны дырэктар нацыянальнага парка «Браслаўскія азёры» У. Сенькоўскі ў сваім выступленні звярнуў увагу на праблему захавання прыродных комплексаў нацыянальнага парка.

*І.С.*

## Галандыя можа дапамагчы сельскай гаспадарцы Беларусі

**Галандыя можа ўкласці ў сельскую гаспадарку Беларусі 10--15 мільёнаў долараў.**

Справа ў тым, што два з паловай гады таму назад ў Галандыі, адной з самых аграрна развітых краін свету, была прынята праграма скарачэння сельскагаспадарчага сектара эканомікі. Галандцам не трэба столькі сельгаспрадукцыі, да таго ж, больш правільна выкарыстоўваць землі для адпачынку людзей, чым бесперапынна іх эксплуатаваць. Але многія галандцы не жадаюць развітвацца з сельскай гаспадаркай і перавучвацца на гарадскія спецыяльнасці, таму яны гатовы нават пераехаць у іншую краіну і працаваць на зямлі. Праз беларускае пасольства ў Брусэлі гэтыя фірмы звярнуліся да ўрада Беларусі з прапановай прывезці сюды галандскіх сялян з сем`ямі, тэхнікай і тэхналогіямі. Пры гэтым ставілася ўмова: зямля павінна быць прададзена ў прыватную ўласнасць, што супярэчыць нашаму заканадаўству.

І ўсё ж галандскі бізнес згадзіўся на невялікі эксперымент, які зараз праходзіць у Гродненскай вобласці. Калі яго вынікі будуць станоўчымі, галандскі бок можа адмовіцца ад патрабаванняў прыватызаваць зямлю і пачаць маштабны праект, уклаўшы ў сельскую гаспадарку Беларусі як мінімум 10--15 млн. долараў. Падобны праект ёсць і з боку Германіі. Але ў адрозненне ад галандцаў, немцы згодны арэндаваць нашы землі ажно 99 год.

*В. Будкевіч, БелаПАН*

## Выйшла кніга «Справаздача 2000. Свабода друку ў свеце»

Выдадзена яна ў Парыжы міжнароднай арганізацыяй «Рэпарцёры без межаў». У выданні дадзена хроніка падзей, якія суправаджаліся ўціскам правоў журналістаў, у тым ліку і ў Беларусі. Так, сярод журналістаў, якіх затрымлівалі і дапытвалі ў 1999 годзе, называюцца Алег Груздзіловіч і Аляксей Шыдлоўскі(«Навіны»), Андрэй Пісальнік(«Біржа інфармацыі»), Ірына Халіп («Імя»), Славамір Адамовіч і Віктар Корзун («Наша ніва»), Ціна Клыкоўская («Чырвоная Змена»). Прачытаўшы кнігу, разумееш, што ў Беларусі са свабодай друку лепш, чым у Расіі, Турцыі, Сербіі, Украіне, Іране, але горш, чым у Егіпце, Палесціне, Ізраілі і большасці краін Афрыкі. Такія краіны, як Чэхія, Славакія, Швецыя, Туркменістан і Таджыкістан выглядаюць нашмат лепш са свабодай друку, чым Беларусь, а суседняя Польшча наогул ні ў якіх «штрафных» спісах не значыцца.

Складальнікі кнігі паведамляюць аб кругласутачнай рабоце тэлефоннай лініі «SOS Presse».

Патэлефанаваўшы па парыжскім тэлефоне **(33) 147 77 74 14**, можна паведаміць аб выпадках парушэння правоў журналістаў на свабоднае распаўсюджанне інфармацыі. Паведамленні прымаюцца на англійскай і французскай мовах.

*У. Трэцьякоў, БелаПАН*

Да ведама аўтаўладальнікаў

# Новае ў страхаванні

У Беларусі дэкрэты, загады ды пасланні, растуць, што грыбы пасля дажджу. Цікава толькі тое, што праз нейкі час усе гэтыя «вынаходніцтвы» дзяржаўныя асобы то пачынаюць каментыраваць, то выходзяць нейкія дадаткі-тлумачэнні, то чарговыя загады на загад тыпу «О совершенствовании». А адбываецца падобнае таму, што сутнасць усіх гэтых загадаў мала каму зразумела. Сорам ды і толькі! І вось зноў чарговае» нараджэнне». З 1 ліпеня гэтага года ўступае ў сілу ўказ кіраўніка дзяржавы за № 229 «О совершенствовании порядка и условий проведения обязательного страхования гражданской ответственности владельцев транспортных средств», згодна якога ўводзіцца новы парадак страхавання. У паўсядзённым жыцці круцей, чым у кінафільме «Вяселле ў Малінаўцы».

Новаўвядзенне выклікана тым, што расходы страхавых кампаній, якія пайшлі на выплату, у паўтара разы перавышаюць агульную суму прыбыткаў ад паступлення страхавых плацяжоў. Новыя памеры страхавых узносаў быццам бы павінны ліквідаваць гэты перакос. З гэтай мэтай уведзены павышаны і зніжаны каэфіцыенты страхавання ў залежнасці ад месца пражывання аўтаўладальніка (па статыстыцы, у гарадах колькасць аварый большая, чым у сельскай мясцовасці). Такія ж каэфіцыенты ўстаноўлены адпаведна для вадзіцеляў двух тыпаў -- прыкладных і ліхачоў. Скідкі за безаварыйную язду будуць прымяняцца толькі па дагаворах, якія заключаны на тэрмін не менш года. Гэта правіла пачне дзейнічаць з 2001 года. Устаноўлены новы мінімальны тэрмін для заключэння дагавора страхавання -- месяц (раней было тры месяцы). Згодна новага палажэння, умовы дагавора страхавання зараз будуць распаўсюджвацца на ўсіх законных уладальнікаў транспартнага сродка (яны павінны быць указаны ў дагаворы страхавання), а не як раней -- у каго была даверанасць.

Па-ранейшаму палажэнню пры продажы аўтамабіля (матацыкла) правы і абавязкі па дагавору страхавання пераходзілі да другой асобы. Пасля 1 ліпеня дагавор страхавання ў вышэйназваным выпадку перастае дзейнічаць і аўтаўладальніку вернуць частку страхавога ўзноса (вядома ж, ужо абясцэненую-- *рэд*). Дагавор страхавання будзе дзейнічаць, калі аўтаўладальнік ужо атрымаў страхавую кампенсацыю згодна ўстаноўленага ліміту. Некалькі спрошчана і працэдура афармлення дакументаў пры фіксаванні страхавога выпадку. Памеры карэктыруемых каэфіцыентаў да ўзносаў наступныя: у Мінску --1,3; у Брэсце, Віцебску, Гомелі, Гродна, Магілёве -- 1,2; у гарадах з колькасцю жыхароў больш 50 тысяч -- 1,0; у іншых населеных пунктах -- 0,8.

**А. Петрашэнкаў**

### Сенсацыйнае адкрыццё

Ізраільскія вучоныя аб'явілі аб тым, што валодаюць камп'ютарнай праграмай, якая зможа даць адказ за што адказвае кожны ген у арганізме чалавека. У выпадку поспеху, гэта дасць магчымасць лячыць практычна ўсе хваробы.

### Сістэма аховы здароў`я Расіі на 130-ым месцы ў свеце

Гэта вынікае з даклада Сусветнай арганізацыі аховы здароў'я. Першае месца ў свеце займае Францыя, за ёй ідзе Італія. З рэспублік былога Савецкага Саюза найвышэйшы рэйтынг у Казахстана -- 64 месца.

### Грузія не ўступае ў Саюз

Прэзідэнт Грузіі Э. Шэварнадзэ напярэдадні саміта кіраўнікоў дзяржаў СНД у Маскве 21 чэрвеня заявіў, што ён не выключае магчымасці далучэння да Саюза Беларусі і Расіі іншых дзяржаў, аднак «Грузіі ў іх ліку не будзе».

*Н. Кулагіна Бела ПАН*

### Бясплатныя прыватныя абвесткі

**Прадам або абмяняю коней на аўтамашыну «Жыгулі» . Пісаць на адрас: Феакціст Фядотаў, в. Дубнякі, Вароніцкі сельсавет, Полацкі раён, або тэлефанаваць у Наваполацк па нумары 8-(244) 2 85 18 з $20^{00}$ да $21^{00}$.**

***

**Будую хаты, гаражы, хлявы, падмуркі, платы з каменя Тэл.: 2 37 54 (у Глыбокім)**

***

**Тэрмінова прадаецца легкавы дызельны аўтамабіль Mitsubishi -- Colt 1986 г. выпуска. Пяціступеньчатая КПП, аб`ём рухавіка 1,8. Звяртацца па тэлефоне 2 12 74 (у Глыбокім).**

***

**Жадаючыя атрымаць новую кнігу славутага Міколы Ермаловіча «Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае» дашліце замову, свой дакладны адрас і 2200 рублёў Алесю Міхайлавічу Сабаленка, п/с 268, 220131, Мінск-131. Кнігу атрымаеце праз пошту. У Мінску кнігу можна набыць ў сядзібе Таварыства беларускай мовы: Мінск, вул. Румянцава, 13.**

*З павагай Алесь Сабаленка*



### ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

**У рэдакцыі газеты «Витебский курьер» будзе працаваць «прамая лінія».**

Кожны аўторак з $17^{00}$ да $18^{00}$ па тэлефоне 37 76 82 Вы зможаце звярнуцца да прадстаўніка Беларускага Хельсінскага камітэта з інфармацыяй аб парушэнні Вашых грамадзянскіх правоў. Усе антыканстытуцыйныя факты будуць зафіксаваны, а Вы зможаце атрымаць кансультацыю.

**Па праблемах парушэння правоў чалавека Вы зможаце звяртацца і па тэлефонах 2 37 54 ў Глыбокім, 2 14 28 у Браславе, 2 31 11 у вёсцы Заазер'ці Шаркоўшчынскага раёна, 2 27 58 у Паставах.**

### Цытата апошняй паласы

**Інфармацыя -- гэта тое, што нехта спрабуе ўтаіць, усё астатняе -- рэклама**

### Туркменам забаронена адкрываць рахункі за мяжой.

Такі ўказ падпісаў прэзідэнт краіны Сапармурат Ніязаў. Ён датычыць і юрыдычных, і фізічных асоб. Грамадзянам рэспублікі, якія ўжо маюць рахункі за мяжой, загадана на працягу трох месяцаў перавесці сродкі на радзіму.

### Падарунак Туркменіі ад Беларусі

Трактар вытворчасці Мінскага завода «Беларус- 1221в» атрымаў нядаўна ад прэзідэнта Беларусі Туркменскі прэзідэнт Сапармурат Ніязаў. У ходзе сустрэчы былі абмеркаваны перспектывы двухбаковага эканамічнага супрацоўніцтва, у прыватнасці, аб магчымых пастаўках у Беларусь туркменскага прыроднага газу і хлопка.

## ТУТ МАГЛА БЫЦЬ ТВАЯ РЭКЛАМА!




Да 2000-годдзя хрысціянства

# Расстраляны за веру

**«Жыццё зараз такое, што адзін ходзіць па магазінах са сваімі грамі, другі па «маліне» з пісталетам, трэці -- па чыноўніцкіх кабінетах з Канстытуцыяй... Але самы абаронены той, хто ходзіць па гэтай Зямлі з Богам у душы».** *Галіна Сутула*

Пагранічнік Яўген Р. трапіў у чачэнскі палон у лютым 1996 года, калі вайна была ў самым разгары. Пасля трох месяцаў палону, у дзень, калі яму споўнілася 19 год , ён быў расстраляны пад Бамутам. Дзесяць доўгіх месяцаў маці шукала сына па ўсёй Чачні. Яго магілу за вялікія грошы паказалі самі чачэнцы. Жанчына апазнала цела сына па нацельнаму крыжыку...

Любоў Васільеўна адшукала ў Бамуце Руслана Хайхароева, таго, хто забіў яе сына. Аб тым, як усё адбылося, у прысутнасці прадстаўнікоў еўрапейскай арганізацыі АБСЕ, расказаў сам забойца. Па яго словах, у Жэні была магчымасць застацца ў жывых, для гэтага трэба было... зняць нацельны крыжык і назваць сябе мусульманінам. Жэня гэтага не зрабіў.

Ад хлопцаў, якія трапілі ў палон, патрабавалі свядомага адрачэння ад Хрыста. Калі пленнік не згаджаўся, яго білі, зневажалі, расстрэльвалі. У адным лагеры двое хлопцаў не вытрымалі, перайшлі на бок чачэнцаў. Яны думалі, што проста зменяць веру на час палону, а затым, калі вернуцца дадому... Але зваротнай дарогі няват пасля адрачэння ад Хрыста не было. Адрачэнне -- першы крок да здрадніцтва. Другі крок: прымушалі расстрэльваць палонных, сваіх таварышаў, што яны і рабілі. Адзін з хлопцаў перад тэлекамерай адмовіўся ад роднай маці: « У мяне няма маці, у мяне толькі Алах».

Жэня Р. добра ведаў, што чакае яго за адказ здрадзіць веры і свядома выбраў смерць. Яго маці, якая жыве сёння адна, кажа: «Мне цяжка, што сынок загінуў. Але ён аказаўся годным сынам..., не адмовіўся ад Хрыста, ад праваслаўнай веры, гэта мяне суцяшае. Я не вядаю, як бы я перажыла, каб ён зрабіў інакш».

***Па матэрыялах газеты «Віцебскі кур`ер».***

## Скауты сабраліся ў Маладзечне

**У чэрвеня ў Маладзечне адбыўся семінар актывістаў скауцкага руху на Беларусі. Ён склаўся з прадстаўнікоў розных скаўцкіх арганізацый з розных рэгіёнаў Беларусі, удзельнікі сустрэчы, якая адбылася 30 чэрвеня 2000 года ў горадзе Маладзечне, склалі гэтае пагадненне аб тым, што мы падтрымліваем прынцыпы хрысціянскага еўрапейскага скаутынгу і ў сувязі з гэтым утвараем і будзем развіваць хрысціянскі скаўцкі рух у нашай краіне і гатовы далучацца да Федэрацыі Скаутаў Еўропы».**



На ім прысутнічалі прадстаўнікі з Барысава, Пастаў, Жодзіна, Светлагорска, Гродна, Браслава, Мядзеля. Глыбокае прадстаўляў гісторык Аляксандр Шэлепень.

Па выніках сустрэчы быў прыняты Мемарандум:

«Мы, што ніжэй падпісаліся, прадстаўнікі скаўцкіх арганізацый з розных рэгіёнаў Беларусі, удзельнікі сустрэчы, якая адбылася 30 чэрвеня 2000 года ў горадзе Маладзечне, склалі гэтае пагадненне аб тым, што мы падтрымліваем прынцыпы хрысціянскага еўрапейскага скаутынгу і ў сувязі з гэтым утвараем і будзем развіваць хрысціянскі скаўцкі рух у нашай краіне і гатовы далучацца да Федэрацыі Скаутаў Еўропы».

Свой подпіс пад Мемарандумам паставіў прысутны там айцец Андрэй Абламейка з Мінска.

***Каго цікавіць развіццё скаўцкага руху, звяртайцеся за даведкамі па тэлефоне 2 12 74 у Глыбокім да Аляксандра Шэлепня.***

## «ЮНАЦТВА Ў ЗБАЎЛЕННІ» `2000

**Маладзёжны хрысціянскі злёт з 24 па 29 ліпеня**

На тэрыторыі Пастаўскага раёна, у вёсцы Шыркі каля возера Світа, на базе Біблейскага цэнтра «Збаўленне» горада Паставы пройдзе маладзёжны хрысціянскі злёт.

На злёце будзе служэнне пастараў і захапляльныя семінары на актуальныя маладзёжныя тэмы, творчыя вечары з удзелам хрысціянскіх музычных груп і выканаўцаў, спартландыя, хуткасны заплыў і спартыўныя спаборніцтвы па футболу і валейболу.

Адна важная падрабязнасць: арганізатары ў дзень заезду просяць дапамагчы ахвераваннямі ў памеры 10 у.а. на чалавека.

**Набывайце «Вольнае Глыбокае» ў кіёсках «Саюздруку»!**

«ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ»
Незалежная рэгіянальная газета.
Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун
Рэдактар: Галіна Сутула

Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №1099, выдадзена Дзяржаўным Камітэтам Рэспублікі па друку 25 верасня 1998 года

Газета выходзіць два разы на месяц. Аб`ём -- 2 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 6 ліпеня 2000 года ў 13-30.

Меркаванні рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.

Юрыдычны адрас: 211800, г. Глыбокае, вул. Маскоўская, 121

Тэлефон: 23754 (Галіна СУТУЛА)

Наклад 1000 паасобнікаў

Адрас для допісаў: 211800, г. Глыбокае, вул. Валадарскага, 67.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк. вул. Блахіна, 26 Замова 4279